 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1200) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 25 ЛЮТАГА 1979 г. ЦАНА 60 гр.


Новыя вершы

*Нешта журботнае вецер пяе*
*У лясах парыжэлых.*
*Аддам я ўсе перамогі свае*
*За адно паражэнне.*

*А ты не хочаш*
*У палон мяне браць,*
*Не хочаш майго разгрому...*
*Сцюдзёным агнём*
*Рабіны гараць,*
*Ні цішыні,*
*Ні грому.*

**Пімен Панчанка**

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

## Праўдзівейшае жыццё

Наколькі магу успомніць сваё маленства, заўсёды мне сніліся каляровыя алоўкі і фарбы, барвовыя, іскрыстыя. А ў бежанства, у мікалаеўскую вайну, наша сям'я з Беластока завандравала аж у Туркестан, пад самую кітайстую сцяну. У Кастрычніцкую рэвалюцыю ў нашу мясціну заблукаў якісьці тэатр. Што ён паказваў, я не памятаю, але мне ўрэзаліся ў памяць каляровыя афішы і дэкарацыі. Пасля выезду актораў я бегаў і збіраў рэшткі гэтых каляровых цудаў з паперы, вымочваў іх у вадзе і ёю маляваў...

Цяпер **Мікалаю Грыгарчуку** ўжо 69 год. Ён на пенсіі. Жыве ў зграбным і ўтульным, уласнаручна збудаваным доміку на адной з зацішных вулачак Васількова і малюе. Малюе, калі ў адкрытае акно заглядае зеляніна з агародчыка, малюе і стоячы па пояс у пухкім снезе. Малюе ад самай раніцы і да змяркання з такой любасцю і заўзятасцю, як быццам бы спяшаўся нагнаць страчаныя гады і перадаць на палатне свае накопленыя за гэты час жыццёвыя назіранні. А іх у М. Грыгарчука не мала.

У лёсах яго сям'і, як у люстры, адбілася гісторыя тутэйшай зямелькі за апошнія сто год. Дзед жыў у Явароўцы, меў маленечкую хатку і такую ж гаспадарачку. Дзеці, як толькі адраслі ад зямлі, адразу разбрыліся па ваколіцы на свой хлеб. І бацька, Іосіф Грыгарчук, прывучыўся на токара на фабрыцы Вячорка ў Беластоку. Але пасля вяртання з бежанства ніякага ні прытулку, ні працы ў горадзе яму і яго пяціасабовай сям'і не знайшлося. Давялося вярнуцца ў Явароўку, каб з дзвюма такімі ж згалелымі ад вайны ды дзіцятымі сем'ямі душыцца ў старэнькай халупцы ды карміцца з тых некалькіх загончыкаў. Вядома, не да малявання было, хоць рукі аж свярбелі да алоўка ці пэндзліка. Гэтую схільнасць у Міколы заўважыў у пачатковай школе ў Дабжыневе настаўнік Здыбель. Малявалі яны разам: Здыбель тушшу рабіў графіку, а Мікола — алейнымі фарбамі пейзажы і партрэты. Настаўнік пазнаёміў свайго вучня з асновамі жывапісу і даваў яму... праўдзівыя фарбы. У васемнаццаць год ён ужо наймаўся да багацейшых сялян у касцы, і за зробленыя за ўсмажлівы дзень касавіцы на лугах над Нарваю пяць злотых набываў у Беластоку крыху палатна і фарбаў.

Пасля вайсковай службы і жаніцьбы ён на стала пасяліўся ў Васількове. Але гэта было перасяленне з беззямелля ды на безрабоціцу: маладой пары, Надзі і Мікалаю ўдавалася працаваць на васількоўскіх фабрыках толькі 3-4 месяцы ў год, потым жа прыходзілася жыць без якіх-колечы сродкаў дзяржаўнай ці грамадскай дапамогі. Аднак і ў гэты цяжкі час М. Грыгарук патрапіў сабраць свае сілы і кожную вольную ад стараннях пра хлеб надзённы хвіліну прысвяціць жывапісу. Іменна тады паўстае шэраг замалёвак і карцін, якія праўдзіва паказваюць жыццё ў міжваенным Васількове.



Урэшце М. Грыгарчук неяк уладкаваўся на земляныя працы ў беластоцкім водаправодзе. Супрацоўнічаў з гуртком Міжнароднай арганізацыі дапамогі рэвалюцыянерам, збіраў складчыны і ахвяраванні бастуючым рабочым, ішоў у дэманстрацыйным паходзе беластоцкіх пралетарыяў у Супрасль на пахаванне забітых там паліцыяй рабочых. Адразу пасля вызвалення разам з бліжэйшымі сябрамі заснаваў у Беластоку будаўнічую спулдзельню „Праца“, быў там брыгадзірам цесляроў.

— Але ж спатыкае мяне раз тадышні дырэктар васількоўскай фабрыкі, нашай „Плятэроўкі“, Аляксандр Гутнік і кажа: „Мікалай, трэба свой горад на ногі ставіць“. Перакапаў мяне. Працаваў я на „Плятэроўцы“ на „ваўку“, пуцарам, бракаўшчыкам. Там уступіў я ў Польскую рабочую партыю. Працы было як завязаць: на фабрыцы і на розных грамадскіх пасадах. Некалькі разоў партыйная арганізацыя выбірала мяне сваім сакратаром, а ў 1949 годзе выставіла маю кандыдатуру на старшыню гарадскога савета Васількова. Выбралі людзі мяне. Але гэта быў мой пераход з агню ды ў полымя. У той час па лясах вакол мястэчка яшчэ валачыліся банды.

Аднак жа ён не адступіў, не пабаяўся і з галавой акунуўся ў грамадскія працы: рамантаваў будынкі, арганізаваў першы ў Васількове пункт аховы здароўя, заснаваў дзіцячы сад, узяўся за пабудову вуліц, бо дагэтуль, хоць Васількова атрымала гарадскія правы ў 1566 годзе, тут пасля дажджу ці ў веснавое разводдзе праз дрыгвястую твань не праехаць ды не прайсці было. Але недзе праз пяць год давялося яму адступіць, зрачыся з пасады старшыні, ды з-за вельмі звычайных прычын. Пасада была ганаровая, аднак... плата мізэрная, а ў яго на ўтрыманні сям'я з чатырох асоб ды старая халупка на галовы зусім валіцца. Перайшоў ён працаваць на прадпрыемства, што займалася пабудовай мастоў. Узводзіў масты па ўсёй паўночна-усходняй Польшчы — ад Васількова аж па Вейгерова. Праз чатыры гады гэтае качаванне яму надакучыла, ён вярнуўся ў гарадское ўпраўленне Васількова, каб ужо на пасадзе кіраўніка прадпрыемства камунальнай гаспадаркі працягваць тыя ж працы па добраўпарадкаванню горада, пачатыя яшчэ ў часы свайго старшынства. Калі ў 1975 годзе М. Грыгарчук адыходзіў на пенсію, яму было на што азірнуцца: у мястэчку было зроблена многа добрых спраў і ва ўсіх іх няцяжка заўважыць асабістую яго ініцыятыву і ўклад.

І ён глядзіць на Васількова сваімі карцінамі. Дабывае на іх тое своеасаблівае хараство малога мястэчка, што гнездзіцца сярод малых драўляных домікаў, напоўненых цішынёй і задуменнасцю. Радасцю жыцця тхне ад гэтага срэбра дахаў, гонкіх таполяў і бездані неба. М. Грыгарчук наогул усёй душой закаханы ў жывую натуру. „Я імкнуся паказаць прыгажосць дрэў, травы, кветак, — кажа ён, — хачу, каб яны на маіх карцінах дыхалі“. Прыроджаная інтуіцыя мастака, падсвядомае адчуванне прыгажосці вось ужо дзесяткі год водзіць яго па наваколлю Васількова, каб вылучаць у ім самыя глыбокія па зместу і самыя цікавыя кампазіцыйна і каларыстычна мясціны. Усё на яго карцінах такое чыстае, светлае, радаснае, прасторнае, здаецца нават што калі б крыкнуць да іх, адтуль дакацілася б звонкае шматгалосае рэха. Васількоўскі мастак любіць людзей. Яны ў яго складаюць натуральны элемент прыроды, а ўвесь сэнс іх існавання на карцінах заключаецца ў стваральнай працы. У статнай постаці сеўцы, што выйшаў веснавой паркай раніцай на свой палетак з сявенькай, адчуваецца моц першастваральніка.

(Працяг на стар. 2)

ПАД ЗАЛАТОЙ ВЕХАЙ

## НА ХУТАРЫ Ў КАЗБЕРУКОЎ

Хутар Казберукоў знаходзіцца далекавата за вёскай Юшкаў Груд. Ян Казбярук, якому ўжо амаль 80 гадоў, кажа, што перасяліліся яны з вёскі яшчэ ў 1932 годзе.

— Тады якраз адрэзалі нам тут між грыбным лесам і падмоклым альшанікам гэты вось хутар — 10,5 гектараў угоддзяў, і пачалі мы будавацца. Год выпаў вельмі неспрыяльны. Безупынку ішлі дажджы, цэлая сенажаць апынулася пад вадой. Вада падыходзіла аж пад хату і заліла хлявы. Давялося жывёлу хаваць у хаце...

А ў гэтай жа хаце і без таго было цесна, бо дзяцей, як кажуць, бог Казберукам не паскупіў. Было іх аж васьмёра. Цяпер яны раз'ехаліся па цэлай краіне.

Наймалодшы з сям'і Казберукоў — **Язэп**, якому цяпер 39 гадоў, застаўся на гаспадарцы. Пераняў яе ад бацькі ў 1970 годзе.



*Кожная з гэтых кароў Язэпа Казберука дае ў год не менш як 4000 літраў малака, а здараюцца надоі па 5000 літраў. Гэта ўжо высокарэнтабельная гадоўля.*

— У горад, — кажа ён, — ніколі мяне спецыяльна не цягнула. Я не змог бы падпарадкавацца гэтай фармальнай і, на мой погляд, фальшывай дысцыпліне. Тут вакол мяне ўсё жывое: і жывёла, і дрэвы, і сенажаці, а нават і поле... Кожны год гляджу на ўсё гэта і сэрца цешыцца, бо гэта ўсё маё, праца маіх рук, мая доля і шчасце маё. І не трэба ліслівa кланяцца нейкаму важнаму дырэктару, не трэба баяцца, што накрычыць на цябе нахабны майстар ці кіраўнік, з якімі не захочаш выпіць паўлітра або падзяліцца месячнай узнагародай...

Сядзім мы ў хаце, праўда, драўлянай, але абсталяванай зусім па-сучаснаму. Мяккія крэслы, бліскучая мэбля, цэнтральнае ацяпленне, газавая плітка, водаправод. І толькі ўзорысты даматканы ваўняны дыван, якім засцелены ложак, напамінае аб шматвяковай мясцовай традыцыі.

— Гэта мая сястра з Кухмоў такая масцярыха, — паясняе Яніна Казбярук, жонка Язэпа. — Я таксама ткала такія дываны, калі яшчэ была дома ў Кухмах, але тут нават кросен няма і часу не хапае. То ж столькі кароў...

Сапраўды, на панадворку ў Казберукоў красуецца аграмадная цагляная абора, у якой умяшчаюцца 24 каровы і

Працяг на стар.4

 



*У час з'езду.*

# З'ЕЗД КАРЭСПАНДЭНТАЎ

З'езд вызначылі на чацвер першага лютага. З аўторка на сераду вырвалася мяцеліца. Разгулялася — на двор страшна паказацца. Горбы снегу, паломаныя дрэвы. Мы тут ужо пачалі пабойвацца, а нават задумвацца над тым, што рабіць са з'ездам, калі не даедуць. Хваляваліся і ў чацвер. Але яны прыехалі. Першым паявіўся Б. Рудкоўскі, праз нейкі час М. Матвеюк, потым іншыя. Назбіралася ўжо і немалая групка. Прыехалі з Грэдалёў, Чыжоў, Кнаразоў, Бельска, Гайнаўкі, Белавежы, Чаромхі, Дубіч Царкоўных. Ехалі па пяць-шэсць гадзін.

— Каб гэта вышаў з хаты і адразу на цягнік, а то яшчэ пакуль да прыпынка дойдзеш, — гаворыць Міхал Кірылюк. — Снегу па шыю.

З'езд, які адбываўся ў будынку рэдакцыі, адкрыла Вера Валкавыцкая — апякунка карэспандэнтаў і адказная за сёмую старонку „Нівы". Цікава і змястоўна ахарактарызавала змешчаныя карэспандэнтамі ў нашым тыднёвіку артыкулы. Звярнула асаблівую ўвагу на народнасць у стылі пісання, што павышае якасць.



*Злева направа: П. Байко, Э. Вайсковіч і О. Пракапюк.*

Адначасова заахвочвала да палемікі ці сяброд карэспандэнтаў, ці з установай, якая дае адказ на іх заўвагі. Зразумела, палеміка павінна з нечага вырастаць і мець сваю падставу. Адным словам, не пакідаць данай справы, нявыясненай да канца. Дамагацца на свае крытычныя заўвагі канкрэтных адказаў, а заадно несці поўную адказнасць за сваю крытыку, каб не было непаразуменняў паміж рэдакцыяй і карэспандэнтамі, каб рэдакцыя магла поўнасцю верыць іх публікацыям.

Пачынаючы ад гэтага года, будуць адзначацца юбілеі супрацоўніцтва з „Нівай", прыкладна: пяцігоддзе, дзесяцігоддзе, пятнаццацігоддзе і гэтак далей. У сувязі з гэтым карэспандэнты павінны прыпомніць рэдакцыі, ад якога года пачалі з ёю супрацоўнічаць і як прайшоў гэты час.

Была закранута і справа адыходу карэспандэнтаў. Ёсць такія, што праз нейкі час перастаюць пісаць. Выпісаліся? Бадай не. Можа крышку змучыліся.

— Калі так, дык пайдзіце ў так званы „водпуск", — гаворыць В. Валкавыцкая. — Адпачніце месяц-паўтара і зноў пішыце. Толькі ніколі не пакідайце пісаць. Падтрымоўвайце адзін другога, прыкладна так, як гэта зрабіў М. Панфілюк з М. Краўчуком.

Вынікі чарговага, ужо шостага, конкурсу „Карэспандэнт года" за 1978 г. вылучылі дваццацідвухасабовы авангард, якому былі прызнаны кніжныя ўзнагароды. Тры першыя месцы заваявалі: Мікалай Панфілюк, Эдмунд Вайсковіч і Уладзімір Сідарук, якія атрымалі за гэта рэчавыя ўзнагароды. Узнагароды таксама былі прызначаны Пятру Байко і Уладзіміру Сідаруку за мастацкасць пісання.

Пасля ўручэння галоўным рэдактарам „Нівы" Г. Валкавыцкім прызнаных узнагарод, голас аддалі карэспандэнтам. Распачалася дыскусія. Міхась Матвеюк, які выступіў першым, закрануў справу крытыкі. Каб не прапускаць найменшых недахопаў. Крытыкі, крытыкі, крытыкі!



*Выступае М. Панфілюк. Злева М. Матвеюк, справа — М. Краўчук.*

— Але і з нашага боку павінна быць вялікая адказнасць, — заявіў Мікалай Панфілюк. — Не пераносіць на паперу абы пачутае, праверыць. Па-мойму, сем разоў адмер, а раз адрэж. Крытыка патрэбная, але добрая, праверанья.

Далей М. Панфілюк звярнуў увагу на ўзрост аўтарытэту „Нівы".

— Прыкладна, у мяне, там дзе працую пісьманосцам, усяго толькі 26 чалавек не зрабіла падпіскі і то толькі таму, што неяк не дапільнавалі. Маю аж 180 гадавых падпісчыкаў.

Потым выступіў Эдмунд Вайсковіч. Сёння яго юбілей, пяцігоддзе супрацоўніцтва.

Карэспандэнцкая дзейнасць на старонках „Нівы" набрала шырокага размаху. Аб гэтым гаворыць колькасць публікацый. Калі шэсць год таму назад першы карэспандэнт меў іх усяго толькі 30, дык зараз аж 109. М. Панфілюк устанавіў новы рэкорд, які з'яўляецца допінгам для наступных.

Уладзімір Сідарук закрануў справу самога конкурсу. Паддаў думку, каб браць пад увагу не толькі колькасць, але і якасць, каб ацэньваць паводле двух крытэрыяў.

На заканчэнне галоўны рэдактар „Нівы" Г. Валкавыцкі, падсумоўваючы выступленне карэспандэнтаў, цёпла ацаніў іх сур'ёзны падыход да сваёй дзейнасці. Звярнуў таксама ўвагу на актуальнасць змешчаных у газеце публікацый. Карэспандэнты не павінны арыентавацца на штодзённыя газеты. У тыднёвіку зусім іншы цыкл. Часта, пакуль апублікуецца матэрыял, траціць ён ужо сваё значэнне, становіцца неактуальным. Трэба, каб карэспандэнты мелі гэта на ўвазе і не крытыкавалі тых дробных спраў, якія назаўтра могуць паправіцца.

І на гэтым закончылі. Перад нашымі карэспандэнтамі цяжкая дарога дамоў. Зноў некалькі гадзін падарожжа. Прыехалі, не паддаліся зіме. І тут яшчэ раз паказалі свой сур'ёзны падыход да супрацоўніцтва з „Нівай".

**М. Шаховіч**
**Фота аўтара**



*Уладзімір Сідарук.*





Вялікая справа — народныя звычаі, народныя абрады, народная традыцыя, браткі. Гэта яны моцна звязваюць нас з месцам нараджэння, з сям'ёй, з блізкімі нам людзьмі. Гэта нічога, што ты ўжо не першай маладосці, або актуальна пражываеш далёка ад родных мясцін, але немагчыма, каб, напрыклад, на Вялікдзень міленька не ўспомніў, як калісьці малышом памагаў маме красіць яйкі і як мама за ручку вяла на ўсеначню, а на Каляды як увесь дзень выглядаў першай зоркі. І так далей і таму падобнае.

І гэта, па-мойму, добра, нават вельмі добра, іменна так і павінна быць. І хоць не з усімі звычаямі, якія бытавалі ці і цяпер бытуюць у нашым народзе, мы згадзіцца можам, што яны добрыя і патрэбныя (бо некаторыя з іх не могуць не выклікаць у нас іранічнай усмешкі

## ЖЫВЕ ЯШЧЭ ТРАДЫЦЫЯ!

ці нават пачуцця непрыстойнасці), але ведаць іх трэба. Ведаючы іх, будзем ведаць шмат гісторыі нашага народа, што, у сваю чаргу, з'яўляецца прамым нашым абавязкам. Тым больш, што звычаі і абрады нашага народа вельмі багатыя і цікавыя. Імі цікавіліся і іх вывучалі многія вучоныя іншых народаў. А з кожным годам застаецца іх усё менш і менш. Тыя, што яшчэ бытуюць, з часам заціраюцца, гінуць, або набываюць новыя формы. Возьмем, напрыклад, дажынкавую абраднасць, якая так пашыраная была на нашых вёсках яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму назад, цяпер з'яўляецца унікальнай рэдкасцю. Малацьба, наадварот, калісь праводзілася ціхенька, спакойненька, а цяпер з велізарнай помпай: і абмалоцяць, і нап'юцца, а часценька яшчэ і паб'юцца. І таму, па меры нашых магчымасцей, звычаі і абрады нашага народа трэба аберагаць, збіраць, вывучаць і абнародаваць. Найбольшая роля ў гэтым павінна прыпасці, безумоўна, аддзяленню беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта як найбольш кампетэнтнай у гэтых справах установе. Варта было б, мне здаецца, апрацаваць (калі такія яшчэ не апрацаваны) адпаведныя тэмы на магістэрскія, нават доктарскія дысертацыі. Во гэта была б работа! Бо ў гэтай галіне ў нас дасюль зроблена вельмі нямнога. Наша мясцовасць, бадай, распрацавана найменш з усіх рэгіёнаў Польшчы. Сабрана, праўда, крыху фальклорнага матэрыялу, часткова распрацаваны назвы нашых мясцовасцей, напісана аб беларускім школьніцтве на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд, а таксама некалькі прац на тэму нашых гаворах і гэта, здаецца, усё. А, пардон, маем яшчэ „Беларускае вяселле". Так маем, але што гэта за вяселле? Такіх убогіх вяселляў не рабілі ў нас калісь нават для круглых сірат. Маю на ўвазе ўбогасць не ў самым вясельным стале ці на стале, бо і вясельны каравай быў, зрэшты, быў ён, здаецца, самым, як кажуць, гваздзём цэлай вясельнай цырымоніі. І іншае, так сказаць, было. Аб гэтым „было" красамоўна сведчаць паводзіны саміх сватоў. Яны так заліхвацка выкручвалі польку-трасуху, як наташчак і, прабачце, па-цвярозаму гэтага не зробіш. О, не! Але ўбогае яно іменна традыцыйнай вясельнай абраднасцю. Бо дзе ж хто бачыў беларускае традыцыйнае вяселле з караваем, са сватамі ў кашулях навыпуск, а без шлюбу з магутнай пеўчай. Не хапае ў ім і іншых дэталяў. А зрабіць сапраўднае беларускае вяселле са ўсёй традыцыйнай абраднасцю — не такая ўжо складаная справа, толькі не ведаю, як заахвоціць добрага рэжысёра. І кошты будуць не такія ўжо высокія. Трэба толькі падабраць адпаведную вёску, багатую вясельнымі традыцыямі і адпаведную пару, якая рыхтуе сапраўднае вяселле. Потым дагаварыцца з імі, каб гэтае вяселле было пашырана ўсёй нашай традыцыйнай вясельнай абраднасцю. І яны напэўна згодзяцца, не зважаючы на тое, што будуць мець і больш клопатаў, і большыя фінансавыя выдаткі, бо хто не хацеў бы ўвекавечыць сваю важнейшую жыццёвую дату. Вось гэта будзе вяселле, што гледачы (ужо не беларусы) будуць густа пускаць сля-

(Працяг на стар. 5)

(Працяг са стар. 3)

# ЖЫВЕ ЯШЧЭ ТРАДЫЦЫЯ!

зу зайздрасці, што іх не так урачыста жанілі ці замуж аддавалі. І будуць, бадай, такія, што захочуць мець іменна такое, а не іншае, вяселле, нягледзячы нават на тое, што яны ўжо жанатыя ці замужнія. Можа тут крыху я і перабаршчыў, але я абсалютна ўпэўнены, што гэтае вяселле будзе ўсім падабацца. Многія іншыя нашыя традыцыйныя абрады і звычаі — таксама, бо яны сапраўды вельмі цікавыя.

Заўважаецца, што традыцыі, звязаныя з рэлігіяй, мы быццам свядома не заўважалі, абміналі. І не ведаю проста чаму, ці саромімся іх, ці баімся, каб не западозрылі нас часам у набожнасці, ці што яшчэ? А не маем рацыі. Рэлігія пакінула і надалей пакідае ў нашым народзе немалы след. Такая аб'ектыўная праўда, і таму абмінуць яе нельга. Зрэшты рэлігійнасць нашага народа гэта вельмі цікавая справа, якой сароміцца няма ніякіх падстаў. Па-першае, у гэтай сваёй гісторыі беларусы нікому сілком не навязвалі сваёй рэлігіі. Па-другое, у нас ніколі не наглядалася рэлігійнага фанатызму. Рэлігія ў нашым народзе — гэта традыцыя.

Як бачыце, добрага зроблена ў нас нямнога. А нядобрага? Прыглянемся хаця б да назваў нашых мясцовасцей, якая ж каласальная „навуковая“ работа праведзена і далей праводзіцца там. Вось вам толькі нямногія з многіх прыклады: вёска Кленікі чамусьці пачынае называцца Клейнікамі і пры тым так хітра, што ўязджаючы ў вёску з аднаго канца, убачым таблічку з надпісам Клейнікі, уязджаючы з другога — Кленікі. А можа гэта з мілітарных меркаванняў, каб змыліць нашых ворагаў? Як бы там не было, але самі жыхары вёскі ўжо не ведаюць, як яны ў канцы канцоў называюцца Бо розніца паміж гэтымі словамі немалая — словы Клейнікі і Кленікі маюць розныя корані. І не будуць ведаць, калі назвы мясцовасцей будзем браць не ад таго, як яны называюцца ў гэтай жа мясцовасці, а прывозіць гатовую аднекуль. Вёска з прыгожанькай назвай Новэ Корніно пачало афіцыяльна называцца адным словам Новакорнін. Вёска Новэ Бэрэзово — Новобэрэзово, а нават сустракаецца назва Новобэрэзуў і так далей і таму падобна. Па-мойму, гэта называе калецтва, да якога дапускаць нельга. Гэта сур'ёзная справа і не можа быць тут ніякай анархіі, бо можа дайсці да таго, што праз нейкі час мы самі сябе не пазнаем.

**Піліп Саскі**

---

аб працы яго магазінерам і аб жонцы Валі, якая працуе ў гмінным упраўленні ў Бельску. Атрымаюць яны кватэру ў блоку, і не трэба будзе тады стаяць на аўтобусных прыпынках, каб заехаць у Бельск і вяртацца дамоў у Храбалы.

Культура ў сямейных адносінах у Гліваў пануе з даўных-даўна. У іх гэта лічыцца зусім звычайным. Яны не ўяўляюць, каб нехта паводзіў сябе непрыстойна, грубіяніў.

Часам успамінаюцца Івану Гліву мінулыя і ўжо далёкія гады. Было яму 20 год, калі задумаў жаніцца. Ніхто яму не забараняў. І прывёз ён з Райска дзяўчыну. Нічога, што была тады вялікая сям'я, сварак не было. І плыло жыццё. Прыносіла яно і радасці і смуткі. Радасці было многа, калі Іван з Надзяю бацькамі сталі, калі сёстры Івана, Маня і Жэня, выходзілі замуж, а пасля ездзілі да іх на хрысціны. А смутак панаваў у хаце, калі памерла бабуля, а пазней мама Івана. Усе разам перажывалі глыбока і вясёлыя і цяжкія хвіліны. Так і сёння. Кожная радасць каго-небудзь з членаў сям'і з'яўляецца радасцю ўсіх, калі ў каго гора, усе цяжка перажываюць.

Гэтая сям'я з'яўляецца прыкладам для многіх сем'яў. Можна быць заможным, можна славаю абрастаць, але калі няма ў хаце сардэчных адносін, жывецца там цяжка.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**

---

ФАЛЬКЛОР

## ВЯСЕЛЬНАЯ

*Жэ ж ты, Ясеньку, бярэш яе,*
*жэ ж ты, Ясеньку, глядзі яе,*
*каб яна боса ні хадзіла,*
*каб яна цяжко ні рабіла.*
*каб яна цяжко ні рабіла,*
*каб яна вады ні насіла.*
*каб яна вады ні насіла,*
*каб яна хлеба ні мясіла.*
*— Ой, у нас ні па-вашаму.*
*край вокен рэчка цячэ,*
*край вокен рэчка цячэ,*
*сама печ хлябы пячэ,*
*сама печ хлябы пячэ,*
*сам таўкач куццю таўчэ,*
*сам таўкач куццю таўчэ,*
*сам дзяркач хату мяце.*




Ад Антаніны Лясоты, 1901 г. нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў 3 лістапада 1978 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

---

**УСПАМІНЫ (8)**




**ВАРШАЎСКІ ФЕСТЫВАЛЬ**

Калектыў наш вельмі часта выязджаў на перадфестывальныя сустрэчы. 17 ліпеня былі мы ў Замброве, 24 ліпеня ў Ломжы, 30 ліпеня ў Васількове. Прызвычаіліся качаваць. І як качэўнікі не грэбавалі сродкамі транспарту. Ездзілі, згодна з духам часу, адкрытымі грузавікамі. На канцэрт прыязджалі запыленыя, выглядалі як пудзілы. А з Ломжы вёз нас п'яны, відаць, вадзіцель. Пёр 80 у гадзіну. Усе мы паспадалі з крэслаў. Лямант, плач, маленне. Валасы станавіліся дыба. А ён пёр. Аж адляцела задняе кола. Як абышлося без катастрофы, не патраплю сказаць.

Перад выездам на фестываль у павятовым аддзеле культуры абяцалі нас адзець у больш прыгожыя народныя ўборы. Абяцанка — цацанка, а дурному радасць. Памылі свае старыя ўборы, паклалі ў чамаданы і 7-га жніўня, развітаўшыся з мужыкамі і дзецьмі, адправіліся ў дарогу. Паехала нас 21 асоба. 11 замужніх (са значным стажам), рэшта — дзяўчаты. На другі дзень раніцай былі мы ў Варшаве ў фестывальным мястэчку на Грахове.

Прыгожа выглядала грахоўскае мястэчка. Арганізацыя была дасканалая. Пасялілі нас у палатцы № 66. Апекавалася намі Марыя Кульчынская з Ваяводскага аддзела культуры ў Беластоку. Пастаралася, каб адзець нас у прыгожыя ўборы. Выглядалі мы як каралевы. Прыгожыя сарафаны і галаўныя ўборы адмалоджвалі, прыпадабнялі да савецкага калектыву імя Пятніцкага.

Фестываль даставіў нам столькі ўражанняў, што, каб іх выказаць, не хапае ў мяне адпаведных слоў. Велізарнае багацце і значэнне гэтага мірнага сусветнага мерапрыемства. Я пераканалася, што моладзь не хоча вайны. Хоча вучыцца, працаваць і весяліцца. Не адчувае яна да сябе варожасці. Нягледзячы на мову і колер скуры. І што будзе яна змагацца, каб не было вайны.

Прыпамінаю такую карціну. Пайшлі мы пагуляць да Палаца культуры. А паколькі, як я ўжо казала, нашыя ўборы „ператварылі“ нас у савецкіх артыстак, акружыла нас моладзь з розных бакоў свету. Былі прадстаўнікі Камбоджы, Карэі, Аравіі, негры, шатландцы, чэхі і шмат іншых. Пачаліся гульні. Нягледзячы на тое, што апрача рускай, ніводная з нас не ведала іншай замежнай мовы, разумелі адны другіх дасканала. Мы задавалі тон. Абступілі нас варшавяне і прыглядаліся нашым танцам. Адна з нас танцавала „рускага“. Стараліся з намі гаварыць па-руску, памагаючы жэстамі. Я сказала:

— Гаварыце па-польску, мы з Беласточчыны.

Не паверылі. Памылку іх умацоўвалі нашы імёны: Надзя, Рая, Саша, Вера. Пачалі прасіць аўтографаў. Давалі. Маладыя — на польскай мове (на іншай мове пісаць не ўмелі), старэйшыя — на рускай. Абдарылі нас цукеркамі.

Цэлыя чатыры дні захапляліся мы мастацкімі выступленнямі. Было цудоўна. Але наша тура кончылася. З сумам збіралі мы свае чамаданы. Жанчыны ўздыхалі. Было гэта так нядоўга.



*У фестывальным мястэчку.*

---

## БУДЗЕ КЛУБ

Як паведаміў нам дырэктар сакольскага аддзела прадпрыемства РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“ Рамуальд Мурмыла, у пачатку сакавіка бягучага года будзе адкрыты новы клуб прэсы і кніжкі ў Крынках. Сядзібай яго будзе будынак мясцовай гарбарні. Цяпер тут ідзе рамонт. Пасля яго ў гэтым будынку будзе арганізавана Ізба нацыянальнай памяці і гмінны цэнтр ідэйна-выхаваўчай работы ПАРП.

Зараз дырэкцыя прадпрыемства РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“ паклапацілася пра светліцовае абсталяванне для спамянутага клуба. Будзе гэта трэці клуб „Рух“ у Крынкаўскай гміне. **(яц)**

---

М. ШАХОВІЧ

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**вінковэ** — урачыстасць для ўшанавання заканчэння пабудовы гаспадарчага будынка. Калі паставяць на хлеў, на стадолу ці хату апошнюю крокву, прывязвалі да вяршыны шчыта букет кветак або з галінак дрэў, і гаспадар усіх тых, хто памагаў, заклікаў на пачастунак. То што, завтра вжэ пэвно в вас вінковэ? А мы вчора в сусіеда на вінковым былі.

**джыгавка** (г вымаўляецца як польскае g) — свінячая або цялячая нага, толькі без кумпяка. Джыгавку вкінь, то борщч наварыцця. Мяса то там на джыгавці нэма, а всэ то страва кроху пахнэ.

**зміет** — снежная гурба, занос. Такіх змітуов за нуоч надуло, што на пудвуорок нэ выйті. За змітамі той з вёскі нэ выйідэш.

**покуот** — склон саламянай страхі. Ну і вітрыско, ціелы покуот зорвало. Нэ лазь по покоті, а то впадэш і поб'ешся.

**пракуовэць** — вянчальны пярсцёнак. Нэ бэры в рот пракуовця, бо шчэ вдавішся. Мы з тобою, мусіт, прокуовцямі обміняліся?

**чыколодок** — сустав. Пераважна адносіцца да пальцаў, хаця не толькі. Як падымаеш, то трымай, а то я вжэ, і так всіе чыколодкі на пальцюх пообівав. Я так чыколодком стукнувся, што аж палець трышчыт, як згінаю.

*(Сакі, гміна Бельск)*

---

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

У жыцці кожнага чалавека можна знайсці многа цікавых эпізодаў, з якіх пісьменнікі склалі б дзесяткі апавяданняў. Вось адна біяграфія былога звычайнага рабочага, а зараз пенсіянера Мікалая Бішчука з Кузавы, што ў Чаромхаўскай гміне. Здавалася б, што яна падобная на іншыя, аднак, калі бліжэй прыглядзімся, дык убачым, што выразна вылучаецца, заслугоўвае на ўвагу.

Быў 1918 год. Як птушкі з далёкіх краін, так кузаўцы з бежанства вярталіся да сваіх сяліб. Вяртаецца і Іван Бішчук. Усюды пустэча. І ў той гэта час на свет прыходзіць першы сын, якога называюць Міколкам. Цяжкія тады гады былі. Холад і голад штодзённым госцем у хаце. Гаспадаркі тут дрэнныя, таму кожны як мог стараўся зарабіць трохі грошай, дзе толькі давялося. Іван Бішчук знаходзіў працу ў сезоне на чыгунцы ў Чаромсе. Аднак гэтага было мала. Калі Міколку споўнілася 9 год, як самы старэйшы з дзяцей (а было ў яго яшчэ два браты і сястра) стаў пастухом. Наймаўся ў суседзяў. І на той „пасадзе“ сустракае Мікалай Бішчук вясну 1940 года.

У сакавіку гэтага ж года атрымоўвае павестку ў кляшчэлеўскі ваенкамат. Яго прызываюць у рады Савецкай Арміі. Вось як успамінае тыя дні наш зняёмы.

## АДНА БІЯГРАФІЯ

— З Кляшчэляў мы папалі ў Ахтырку. Са мною былі яшчэ Іван Кардалевіч з Чаромхі-вёскі і Алесь Сідарук з Апакі. У Ахтырцы атрымоўваем ваенную форму, а праз нейкі час перавозяць нас у Варашылаўград. Сюды трапляе і Алесь Сідарук, з якім я служыў у адной роце.

У Варашылаўградзе затрымоўваемся да чэрвеня 1941 года. Тут праходзім абучэнне. А калі пачынаецца вайна, наш полк накіроўваецца ў раён Харкава, а пасля на Дон. Наступіў 1942 год. Немцы безупынна ідуць наперад. Савецкая Армія адступае. І ўсё далей заглыбляецца ў рускую зямлю наш зямляк Мікалай Бішчук.

Ён далей так успамінае:

— У раёне Чыгуева немцы высадзілі моцны дэсант. Мы трапілі ў акружэнне. Толькі 7 км засталося, каб закрыць кальцо. І, карыстаючыся з гэтай люкі, мы вырываемся. Адступаем пад Растоў, а адтуль перавозяць нас у Новасібірск.

У 1943 годзе Ванда Васілеўская арганізуе Войска Польскае. Мікалай Бішчук, як і многа іншых, уступае ў яго рады. І ўжо як салдат ВП гоніць немцаў аж да самага Берліна. Яго баявы шлях вядзе праз Замосць, Люблін, Каліш, Вроцлаў...

— Вясною 1945 года мы ўступаем на тэрыторыю Германіі, — працягвае ўспаміны М. Бішчук. — І падыходзім да Берліна. Аднак не суджана мне было пабываць у тыя дні ў сталіцы Рэйха. Ужо з яго прыгарадаў перакідаюць нас у Пётркуў Трыбунальскі з батальёнам сувязі, у якім я служу, а канкрэтна ў Чэнстахову на эксплуатацыю тэлефоннай лініі Берлін-Варшава-Масква. І тут канчаецца мая ваенная служба. Мяне ў сакавіку 1946 года дэмабілізуюць з арміі. Вяртаюся дамоў у Кузаву...

Не суджана было аднак і спакойна жыць Мікалаю Бішчуку. Маці загінула ў вайну, а бацька, ажаніўшыся з другою, выязджае ў Савецкі Саюз, забіраючы двух сыноў. Прадае хату і ўсю гаспадарку.

У 1947 годзе Мікалай жэніцца, а ў наступным, пры родах, паміраe жонка. Застаецца сын. Як жа выхоўваць малое дзіця нявопытнаму бацьку? Бішчук аддае сына пад апеку Хрысціны Раманчук, а сам займаецца гаспадаркай. Праз год жэніцца другі раз з дзяўчынай з Белай Стражы Марыяй Казачук. Атрымоўвае ў пасаг хату. Памалу пачынае станавіцца на ногі.

— Вось мой жыццёвы шлях, — канчае размову мой субяседнік. — Не быў ён засланы ружамі.

Зараз Мікалай Бішчук ужо на пенсіі. Аднаго сына ажаніў, а з другім жыве на старой сялібе. Пабудаваў сыну прыгожы мураваны дом. Жыве ў дастатку.

**Ул. Сідарук**

## ABBA

ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвала Гражына Кайдэвіч з Нараўкі.



## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, звяртаюся да цябе са сваімі клопатамі. Пайшла я на стадпёўку са сваім хлопцам. Спачатку было вельмі добра. Сядзелі мы з Віцем адны пры століку. Віця танцаваў толькі са мной. Але сапсавалася ўсё, калі падсела да нас спозненая пара. Дзяўчына прыйшла з хлопцам, але адразу, як толькі селі, яна пачала цікавіцца Віцем. Я думала, што гэта толькі хвілёвае, зараз пройдзе. Але дзе там. Пачалі іграць, і Віця ўзяў яе танцаваць. Тут ужо ва мне ўсё закіпела. Яе хлопец адразу ж узяў танцаваць мяне. Але не да танца мне было. Я ўвесь час глядзела на іх, яны гаварылі нешта, але я не магла зразумець. Кончыўся танец, і мы селі на месцы. Я сядзела, злосная на цэлы свет. Усё ж, калі Віця прыйшоў на стадпёўку са мной, дык павінен жа і быць са мной увесь час. Зайгралі чарговы танец. Тая дзяўчына танцавала са сваім хлопцам, а Віця папрасіў мяне. Але я адмовілася. Мяне трэсла з нерваў. Я тут жа выйшла з залы і вырашыла ісці дамоў. Думала, што і Віця пойдзе за мной. Пачакала, адышоўшы некалькі метраў, але яго не было. Ён астаўся ў зале. Мне стала вельмі крыўдна і, моцна плачучы я адна прыйшла дамоў. На другі дзень прыйшоў да мяне Віця і сказаў, што я нарабіла яму сораму Праўда, калі я ўжо крыху ахаланула ад той злосці, то і мне здалося, што мо крыху пераўвялічыла я ўсё гэта. Але ўсё ж здаецца мне, што гэта не я, а Віця паступіў брыдка. А што ты, Сэрцайка, на гэта скажаш?

Вера

Вера, гэта ты якраз паступіла неўласціва. Гэта няпраўда, што калі ты ходзіш з хлопцам, ён ужо павінен трымацца толькі цябе, не затанцаваць, не загаварыць з іншай дзяўчынай. На забавах гэта проста немагчыма. Што ж гэта была б за забава, калі б хлопцы танцавалі толькі са сваімі дзяўчатамі і толькі з імі гаварылі. Праяўляецца ў цябе празмерная зайздрасць. Калі ў далейшым так будзеш паступаць, дык слабая надзея, каб Віця цябе трымаўся. Празмерная зайздрасць не толькі нарачоных, але і цэлыя сем'і разбівае.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Бацька даў сыну ў горадзе пляц, на якім сын пабудаваў дом на адну сям'ю і пражывае ў ім. Нядаўна памёр яго бацька. Фінансавыя ўлады прыслалі сыну загад на спадчынны падатак. Сын лічыць, што падатак наложаны няправільна, паколькі дом з'яўляецца яго ўласнасцю. Як гэту справу вырашае закон?

АДКАЗ: Перанесці ўласнасць пляца можна толькі натарыяльнай умовай. Паколькі ў гэтым выпадку ўмова гэткая не была заключана, бацька надалей астаўся ўласнікам пляца, а тым самым стаў уласнікам дома, пабудаванага сынам, бо згодна з правам будынак з'яўляецца ўласнасцю таго, на чыім грунце ён знаходзіцца. Таму ў асноўным падатак ад спадчыны ў гэтым выпадку належыцца. Аднак да асновы, на якой аблічваецца падатак, не павінна залічацца вартасць будынка, пабудаванага сынам. Гэта вынікае з арт. 7 закону з 19.XII.1975 г. аб падатку ад спадчын і даравальных запісаў, паводле якога ад вартасці прадмета спадчыны адлічваецца доўг. Такім доўгам з'яўляецца выдатак сына на будову дома, які быў бы абавязаны сплаціць бацька, калі б хацеў вярнуць свой пляц. Паколькі сын залічваецца паводле закону да I падатковай групы, калі б пляц быў варт не больш 50 тысяч злотых, быў бы ён звольнены ад падатку.

## Вер-не-вер

Сніцца мне, што іду я дарогаю, а насупраць мяне два сабакі стаяць і грызуцца. Я перапалохалася і падумала, што лепш пачакаю, каб тыя сабакі адбеглі. Аж тут бачу, што з другога боку ідзе мая знаёмая. Я ёй крыкнула, каб яна не ішла. Яна мяне не паслухала, толькі махнула рукой, а з гэтых двух сабак зрабілася трое мужчын, а побач стаялі два стагі сена. Мы з знаёмай пайшлі каля тых стагоў, і я прачнулася.

Рэната

Астроне! Сніцца, што я ў хаце цесцяў (яны ўжо не жывуць). У хаце цёшча і цесць — жывыя. Але хтосьці з іх мае памерці, і я на пахаванне прывезла селядцоў. Селядцы гэтыя надзвычай прыгожыя, тлустыя. Палажыла я іх на лаве і любуюся імі ды гавару: „Глядзіце, якія прыгожыя селядцы“.

Марыся

**Рэната!** Ці ты не маеш нейкіх ворагаў у мужчынска-дамскіх справах? Думаю, што ёсць тут нейкая кабеціна (а можа гэта нават тая твая знаёмая...). Цешся, бо ў гэтай баталіі ты ўсё ж выйграеш, паколькі тое сена абазначае для цябе поспехі ў справах.

**Марыся!** Хаця сніць нябожчыкаў — гэта добра, усё ж можа цябе ці кагось з тваіх блізкіх зваліць нейкая хвароба. Разгляньса навокал.

**Астрон**

## З вельвету

Модны ў апошні час вельвет посіць пераважна моладзь. Можа быць ён тоўсты (шырокія палоскі), можа быць сярэдні, а нават і зусім дробненькі. Асабліва ахвотна шые моладзь з вельвету штаны, розныя куртачкі і паліто. Усё гэта зразумела, мае спартыўны характар, але пры сённяшняй модзе моладзі толькі гэтага і трэба. Такія паліто ці курткі робяць на нейкай цікавай падкладцы, дзякуючы якой атрымліваецца адпаведны, модны выгляд. На нашых здымках у якасці аздобнай падкладкі выкарыстаны матэрыял у клетку, але вельмі прыгожа выглядаюць вельветавыя рэчы, напрыклад, на штучным футры.

Колеры: гнілыя зялёныя, бурыя, шэрыя, карычневыя розных адценняў, выбляклыя бардовыя і г.д.

**Сяброўка**



## Тайны другой сусветнай вайны




Доктар Родэ змоўк. Усміхнуўшыся, ён акінуў позіркам прысутных. Госці былі расчараваны. Яны чакалі гісторыі, ад якой кроў стыне ў жылах.

— Цікавая гісторыя. Імператар Вільгельм меў рацыю, аддаўшы перавагу зброі, а не янтару. Дзякуючы яму сёння мы з вамі тут, — заўважыў намеснік гаўляйтэра Гросгер. — Аднак вы абяцалі расказаць нам аб праклянцці.

— Праз некалькі гадоў пасля таго, як пакой заняў сваё месца ў замку Манбіжу, кансерватары палаца з жахам заўважылі, што некаторыя пліты пачалі крышыцца, — спакойна працягваў Родэ. Пры гэтым паведамленні з імператарам ледзь не здарыўся ўдар. Ён прызначыў спецыяльную камісію экспертаў. Тыя ўстанавілі, што янтарны пакой крыва ўманціраван. Да таго ж Шлютэр і Тусо не забяспечылі кансервацыі сцен і патрэбнай вентыляцыі. Было выяўлена, што сцены падточвае грыбок, які пачаў ужо падбірацца да янтару.

Суд вынес прыгавор. Архітэктар Шлютэр быў прыгавораны да пажыццёвага выгнання, а скульптар Тусо — да пажыццёвага зняволення. Першы памёр у выгнанні, удалечыні ад радзімы, а другі памёр у турме. Легенда гаворыць, што калі быў зачытаны прыгавор, Шлютэр і Тусо праклялі твор сваіх рук, імператара Фрыдрыха і суддзяў.

Мінула некалькі гадоў і, як я ўжо ўспамінаў, Янтарны пакой апынуўся ў Расіі. Праклянцце, што вісела над шэдэўрам, дало знаць аб сабе. У знак удзячнасці цар падарыў нашаму імператару сто грэнадзёраў — прыгонных сялян. Ніводзін з іх ніколі больш не ўбачыў родную зямлю. Усе загінулі на полі бою.

У 1760 годзе для кансерватарскіх работ былі наняты шэсць кенігсбергскіх майстроў. Старыя гарадскія хронікі паведамляюць, што ўсе яны загінулі трагічнай смерцю.

Нейкі час было спакойна. Але аднойчы царыца Лізавета загадала перанесці пакой у Царскае Сяло. Твор разабралі на асобныя элементы, і гвардзейцы, узваліўшы іх на плечы, з вялікай асцярожнасцю прамаршыравалі дваццаць адзін кіламетр да Царскага Сяла. Ніводзін з іх, як гаворыць легенда, не памёр сваёй смерцю. Цікава таксама, што кансерватары пакоя і маршалы Кацярынінскага палаца памерлі раптоўна і ў росквіце жыцця.

Доктар Родэ скончыў свой расказ і паглядзеў на точаную ножку бакала. Знешне ён быў спакойны, хоць і яму, і ўсім астатнім здавалася, што і на іх паў чорны цень.

— Пан Родэ, чаму вы не расказалі пра гэта раней? — прагаварыў, нарэшце, Кох.

### НОВАЯ РОЛЯ ПАЛІНЫ КУЛЬЖЭНКА

Кіеў, заняты немцамі стаў асіным гняздом інтрыг і спекуляцый украінскіх нацыяналістаў усіх масцей, якія, вярнуўшыся з эміграцыі, спрабавалі стварыць урад пад крылом рэйхслейтэра і міністра ўсходніх тэрыторый Альфрэда Розенберга. Гэтаму энергічна перашкаджалі Кох і Гімлер. Апошні, падбухтораны Кохам, забіваў у самым пачатку кожную спробу стварыць „украінскі ўрад“, неадкладна саджаў у турмы будучых міністраў.

Сярод тых, хто апынуўся на службе немцаў, была нейкая Паліна Аркадзьеўна Кульжэнка, родам з багатай дробнабуржуазнай сям'і. Напярэдадні першай сусветнай вайны яна скончыла тэатральнае вучылішча. Пасля рэвалюцыі на ўвесь голас хваліла Савецкую ўладу, як аказалася, дзеля таго, каб паступіць ва ўніверсітэт. Скончыўшы аддзяленне мастацтвазнаўства, яна працавала потым навуковым супрацоўнікам у кіеўскіх музеях і выкладала ва універсітэце. І хоць з цягам часу яна змірылася з Савецкай уладай, у глыбіні душы заставалася ўсё ж палітычнай эмігранткай. А таму не дзіўна, што яна, не задумваючыся, прыняла прапанову супрацоўнічаць з немцамі. Акупацыйныя ўлады прызначылі яе „навуковым дырэктарам“ ва ўпраўленне музеяў. У брудную справу калабарацыянізму ўцягнуў яе вядомы нам спец да грабяжу каштоўных твораў мастацтва фон Кюнсберг.

### „ПЛАН ТЭРСІТА“

Пачаўшы работу, дырэктар украінскага філіяла „Айнзацштаб рэйхлейтэр Розенберг“ Паліна Кульжэнка атрымала распараджэнне ўзяць на ўлік усе каштоўныя помнікі, што знаходзяцца на тэрыторыі Украіны. Гэта была цяжкая справа. Работнікі сабатавалі і ўносілі ў спіс фальсіфікаты і звычайныя творы, якія не мелі вялікай каштоўнасці, стараліся зацягнуць гэту інвентарызацыю, спрабуючы тым самым выратаваць каштоўныя помнікі.

Летам 1943 года фон Кюнсберг прыслаў тайную тэлеграму, у якой паведамляў Кульжэнка, што нямецкая контрразведка раскрыла „бальшавіцкую змову“, мэтай якой — знішчыць музеі і помнікі культуры. Фон Кюнсберг паведамляў, што нямецкія ўлады занепакоеныя гэтым фактам, пастанавілі „выратаваць“ і „часова ўзяць пад апеку“ творы, вывозячы іх у рэйх да заканчэння вайны. Ён прасіў Кульжэнка паклапаціцца аб скрынях і пакуллі. Калі ўсё будзе гатова, прыедзе другая рота Айнзацштаба, каб запакаваць і вывезці каштоўныя творы. Аперацыя называлася „План Тэрсіта“...

*(Працяг будзе)*

Імпартгумар

# СТЫМУЛ

Пажарная дружына ў калгасе добраахвотная. Такая добраахвотная, што падахвоціліся туды некаторыя з кампаніі абібокаў і п'яніц.

Перад раённым аглядам загусарылі і не прыкмецілі, як ад маланкі загарэўся цялятнік. Пасля пахмелля пакуль разварушыліся, сабраліся, пакуль даехалі, ад будыніны — адны галавешкі... Балазе, што цяляты былі на пашы.

А цераз дзень трэба ехаць у раён. Агляд. Праверка гатоўнасці. Там будуць сельскія дружыны з усяго раёна. Будуць усіх аглядаць, правяраць. Спаборніцтва.

Гора-пажарнікі едуць у раённы цэнтр, уздыхаючы, — ні жывыя ні мёртвыя.

А калі пачаўся агляд, нашай пажарнай дружыны было не пазнаць: ліха спраўляліся яны са сваімі абавязкамі! Вокамгненна разматалі кішку. Бочкі з вадою з'явіліся, нібы з-пад зямлі. Струмень, патрэскваючы аўтаматычнай чаргой, ледзь не дастаў самых суддзяў, якія сядзелі за трое гонаў ад умоўнага пажару.

Маланкава яны ўпраўляліся, завіхаліся... Лазілі па драбінах і па сцяне, як вавёркі па дрэве...

— Малайцы! Вельмі добра, цудоўна! — з захапленнем сказаў галоўны арбітр. — Вось каго возьмем за прыклад. Кругом пяцёркі... Будзе каму прысудзіць першае месца. І выдадзім грашовую прэмію! Арлы-хлопцы!

**Іван Грамовіч**



— *Колькі раз табе паўтараць: падслухоўваць брыдка!*

## ГУМАР З БАРАДОЮ

Адзін пячнік клаў печ. Паложыць цагліну, пастукае па ёй кулаком і кажа:

— Быццам і была тут.

Паложыць другую, пастукае кулаком і зноў:

— Быццам і была тут...

Назаўтра прыходзіць — печ развалілася.

Пячнік пачухаў патыліцу і прамармытаў:

— Гм... Быццам і не была тут.



**Задрыпісар здзіўляецца: пакуль напішаш дрэнную кнігу, колькі прачытаеш добрых!..**

# НІЎКА



— *Мілая, у мяне цэлыя чатыры такты паўзы. Можа, сустрэнемся?*

### РАЗЗЛАВАЎСЯ

Кастусь прыходзіць дамоў з работы змрочны. Жонка ўжо накрыла стол. Ён гаворыць:

— Здымі кашу са стала, маці.

— Навошта?

— Здымі, кажу. Я зараз стукну кулаком па стале, злы я вельмі.

### З АНКЕТЫ

„— Якое ў вас вучонае званне?"

— „Homo sapiens".



*Без слоў.*

### СВЯТАЯ НАІЎНАСЦЬ

Бабру Ліса спявала:
— Цябе я пакахала...
Зарплатаю ягонай
Панчоху напіхала.
Купіўшы легкавуху,
Ліса хвастом вільнула.
Бабёр пашкроб за вухам...
— ...Здаецца, падманула.

**Пятро Сушко**

### ПРА ДОЖДЖ

Прыезджы пытаецца ў прабягаючага хлапчука:

— Тут у вас калі-небудзь дождж канчаецца?

— Не ведаю, — адказвае той, — мне яшчэ толькі дзесяць год.

### ДЗЕ РЭШТА?

Бацька: — Сёння да мяне прыходзіў малады чалавек, які хоча з табою ажаніцца.

Дачка: — Толькі адзін? Я ж пасылала да цябе чатырох, каб ты мог выбраць!

### КУЛЬТПАХОД

*Апраналіся салдаты,*
*Нібы на парад.*
*Перад строем выступае*
*Маладзы камбат:*
*— Цяжка будзе, вельмі*
*цяжка,*
*Знаю, хлопцы, сам,*
*Што напружыць усю волю*
*Давядзецца вам.*
*Ды ніхто спыніць не зможа*
*Нашага байца —*
*Дасядзець нам давядзецца*
*П'есу да канца...*

**Паўло Глазавы**

### СЯМЕЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

— Відаць, яны не вельмі шчаслівыя — часта сварацца.

— Не, у асноўным гэта добрая сям'я. Спрачаюцца толькі аб тым, хто каго ашчаслівіў.

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### АБ'ЯВА

Сёння ў клубе нашага прадпрыемства адбудзецца сустрэча з дырэктарам. Уваходная плата 3 зл.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Ты ведаеш, мілы, — сказала жонка мужу, — я мару ўбачыць Рым. Як ты думаеш, колькі гэта будзе каштаваць?

— Нічога, — адказаў муж.

— Як гэта нічога?

— А вельмі проста. Мары нічога не каштуюць.

*

— Цар Пётр I спаў усяго пяць гадзін у суткі, а ты і на рабоце носам клюеш...

— То ў яго ж тэлевізара не было!



— *Дамысліў...*




— *Каб іх чорт узяў! Наш аўтамабіль укралі!*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Пятра Засіма з Беластока змяшчаем песню*

## ТРИ ТАНКИСТА

**Стихи Б. Ласкина,**
**Музыка Дм. и Дан. Покрасс**

На границе тучи ходят хмуро,
Край суровый тишиной обьят.
У высоких берегов Амура
Часовые Родины стоят.

Там врагу заслон поставлен прочный,
Там стоит отважен и силен,
У границ земли дальневосточной
Броневой ударный батальон.

Там живут — и песня в том порука —
Нерушимой крепкою семьей
Три танкиста — три весёлых друга —
Экипаж машины боевой.

На траву легла роса густая,
Полегли туманы широки.
В эту ночь решили самураи
Перейти границу у реки.

Но разведка доложила точно —
И пошел, командою взметен,
По родной земле дальневосточной
Броневой ударный батальон.

Мчались танки, ветер поднимая,
Наступала грозная броня.
И летели наземь самураи
Под напором стали и огня.

И добили — песня в том порука —
Всех врагов в атаке огневой
Три танкиста — три веселых друга —
Экипаж машины боевой!



# Курёзы

### НА ВАГУ ЗОЛАТА

Многія газеты і часопісы ЗША і Вялікабрытаніі абышоў інтрыгуючы здымак, на якім сфатаграфаваны звычайныя вагі, а на іх з аднаго боку сядзіць падобны на саву сабачка, з другога — ураўнаважваючы гэту жывую істоту... ладны кавалак золата. Зразумела, здымак адразу ж прыцягвае ўсеагульную ўвагу чытачоў, і подпіс пад ім апавядае пра непазбаўленую цікаўнасці гісторыю.

Адно паважанае прадпрымальніцкае англійскае сямейства Лізі Грэй займаецца развядзеннем сабачак каштоўнай пароды дыннель і вельмі выгадна гандлюе імі. У прыватнасці, прадстаўніцы гэтай пароды, якая змешчана на памянёным фотаздымку, быў наканаваны не зусім звычайны сабачы лёс — яна, пераплыўшы акіян, трапіла аж на другі кантынент і стала ўласнасцю багатай амерыканкі за... 1.000 долараў. Каб даць маштабнае ўяўленне аб гэтай цане, тэкст пад здымкам даводзіць, што сабачка каштуе больш залатога злітка такой жа вагі.






**Каб зрабіць з мухі слана, трэба параўнаць яе з мурашкаю.**